БІБЛІЯТЭЧКА КАЛІНОЎЦАЎ
№ 1

В. ЛАСТОЎСКІ

# ШТО ТРЭБА ВЕДАЦЬ КАЖНАМУ БЕЛАРУСУ

Выданьне трэйцяе
пашырыў Я. Найдзюк

БЕРЛІН 1944



КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ
1833 — 1864

# I. ПРА СЯБЕ I СВОЙ НАРОД

Кажны сучасны культурны чалавек перш-наперш павінен ведаць, хто ён такі, якая ягоная мова, народ і край, дзе ён жыве, якая ягоная гісторыя. Ён ад малых дзён павінен умець ужо адказаць на самыя простыя асноўныя пытаньні, як прыкладам:

— **Хто мы?**

— Мы беларусы.

— **Хто гэта беларусы?**

— Беларусы — гэта народ арыйскае расы, славянскага племя.

— **Што гэта народ або нацыя?**

— Народ або нацыя — гэта згуртаваньне людзкіх пакаленьняў, у іхным бязупынным патоку, ніколі няспыняльным і невычарпальным, якія маюць адно расавае паходжаньне, г. зн. у чыіх жылах цячэ адна кроў, што засяляюць адну тэрыторыю, маюць свой арыгінальны фізычны і духовы тып, сваe звычаі, культуру, гісторыю і народны характар, якім розьняцца ад іншых людзей, гавораць аднэю моваю, ды праяўляюць сваю нацыянальную сьведамасьць і волю.

— **Ці беларусы зьяўляюцца народам?**

— Так, беларусы зьяўляюцца народам, бо маюць сваю асобную мову, беларускую, засяляюць суцэльнай масай адну тэрыторыю, маюць сваю даўную гісторыю, культуру, звычаі, становяць асобны фізычны і духовы тып і праяўлялі ды праяўляюць сваю нацыянальную сьведамасьць і волю, імкнучыся да лепшага самастойнага жыцьця.

**— Ці шмат ёсьць народаў?**

— На сьвеце ёсьць шмат розных народаў, і кажны дбае пра сваё дабро, пашыраючы нават часта свае уплывы на суседнія народы, каб карыстаць з іхных багацьцяў і працы, вывышаючы сябе, а паніжаючы іншых. Так, прыкладам, нашыя суседзі — расейцы і палякі — заўсёды стараліся пашыраць свае уплывы сярод беларусаў. Яны выкарыстоўвалі нашых людзей, нашыя багацьці, ды, пануючы у нашым краі, сьпіхалі беларусаў на апошняе месца, стараліся русыфікаваць або палёнізаваць беларусаў. Яны стараліся угаварыць нясьведамых нашых братоў, каб выракаліся свайго роднага: мовы, песьні і граматы, а заміж нашага роднага падсоўвалі сваё чужацкае. Гэткіх авечак у воўчай скуры трэба высьцерагацца.

**— Хто можа належыць да таго ці іншага народу або нацыі наагул і да беларускага народу у паасобку?**

— Прыналежнасьці да таго ці іншага народу або нацыі нельга выбіраць паводля свайго успадабаньня. Прыналежным да таго ці іншага народу стаецца кажны чалавек ужо ад свае прыроды, ад свае крыві, целам і душой сваёй. Гэта значыць, у каго плыве беларуская кроў, хто гаворыць пабеларуску, — той гэтым самым прыналежыць да беларускага народу.

Сьведамым грамадзянінам народу свайго станавіцца беларус толькі тады, калі ён усьведаміцца, — гэта значыць, пазнае дабро, хто ён сам ды пачуе духовую і кроўную сувязь з усім сваім народам.

Народная сьведамасьць зьбліжае і злучае людзей у вадну моцную сям'ю. Даражэйшы і мілейшы нашаму сэрцу будзе кажны беларус, хоць-бы ён найдалей ад нас жыў, бо ён прыналежыць да нашага народу беларускага, бо гэта наш брат з народнасьці. Усе іншыя народы, хоць-бы яны і жылі на Беларусі, аднак яны нам чужыя, бо яны спагадаюць і любяць кажны свой народ і сваю Бацькаўшчыну, а ня нашую.

**— Колькі ёсьць усіх беларусаў?**

— Беларусаў агулам на усім сьвеце жыве больш за 20 міліёнаў. Сваім лікам беларускі народ займае сярод іншых народаў паважнае месца. Найвялікшым народам зьяўляюцца:

| | | | больш | | |
|---|---|---|---|---|---|
| немцы, | якіх | ёсьць | за | 100 | міліёнаў |
| расейцаў | » | » | » | 65 | » |
| ангельцаў | » | » | » | 47 | » |
| французаў | » | » | » | 42 | » |
| італьлянцаў | » | » | » | 42 | » |
| украінцаў | » | » | » | 40 | » |
| гішпанцаў | » | » | » | 25 | » |
| беларусаў | » | » | » | 20 | » |
| румынаў | » | » | » | 19 | » |
| вугорцаў | » | » | » | 10 | » |
| галяндцаў | » | » | » | 8 | » |
| партугальцаў | » | » | » | 7 | » |
| чэхаў | » | » | » | 7 | » |
| баўгараў | » | » | » | 6 | » |
| грэкаў | » | » | » | 6 | » |
| швэдаў | » | » | » | 6 | » |
| фінаў | » | » | » | 4 | » |
| данцаў | » | » | » | 4 | » |
| нарвэжцаў | » | » | » | 3 | » |
| ірляндцаў | » | » | » | 3 | » |
| славакаў | » | » | » | 3 | » |
| ліцьвіноў | » | » | » | 3 | » |
| латышоў | » | » | » | 2 | » |
| эстонцаў | » | » | » | 1 | » |

**Чаму кажны з нас павінен называцца беларусам?**

— Бо усе мы нарадзіліся беларусамі, у жылах нашых плыве беларуская кроў, гаворым пабеларуску і чуемся беларусамі.

**— А як называецца той, хто выракаецца свайго народу?**

— Той, хто выракаецца свайго народу — рэнэгат, здраднік, прадажнік — душапрадаўца. Зрада-ж — гэта найгоршая ганьба. Таму шчыры беларус заўсёды будзе трымацца свайго беларускага народу, свайго краю. Шчыры беларус, праўдзівы сын свайго народу, заўсёды будзе тэй думкі: няхай лепей загіну, чымся адракуся ад свайго народу беларускага. Бо з Беларусяй і з беларускім народам зьвязана нашае жыцьцё, бо Беларусь — гэта нашае найвышэйшае дабро, нашая радасьць і слава.

**— Якія абавязкі беларуса да свайго народу і краю?**

— Беларус павінен любіць свой край, сваю мову і не выракацца іх. Павінен дбаць, каб у беларускім краі разьвіваўся дабрабыт, беларуская культура, і каб народ увесь быў шчасьлівым. Для дабра свайго народу і краю беларус павінен быць гатовым на найвялікшыя ахвяры, нават аддаць жыцьцё.

## II. ПРА БЕЛАРУСКУЮ ЗЯМЛЮ

**— Дзе жывуць беларусы?**

— Беларусы жывуць па жыцьцёвай прасторы Беларусі!

**— Ці жывуць беларусы па-за межамі Беларусі?**

— Так, дзеля таго, што над беларусамі панавалі даўжэйшы час чужынцы, беларусы ня раз змушаныя былі пакідаць сваю Бацькаўшчыну, ды выціраць чужыя куткі. Вельмі шмат беларусаў за часоў царскіх перасяляліся у Сібір, у Амэрыку, у Бразылію, а таксама у іншыя старонкі.

Бальшавікі-ж гвалтам высылалі беларусаў на Мурман, у Казахстан ды іншыя далёкія краіны. З прычыны бальшавіцкае і польскае акупацыі Беларусі, шмат беларусаў з палітычных мэтаў змушана было выяжджаць ці проста нават уцякаць за межы, у Нямеччыну, Чэхію, Францыю, Амэрыку, каб такім чынам ратаваць сваё жыцьцё і магчы далей працаваць на карысьць Беларусі і беларускага народу.

**— Ці багатая беларуская зямля?**

— Беларуская зямля багатая, бо у Беларусі добра родзіць збожжа, бульба, лён, каноплі, буракі, а таксама вельмі каштоўная расьціна коксагыз, з якое можна рабіць каўчук. Растуць таксама розныя травы, дзякуючы якім можа добра разьвівацца жывёлагадоўля. Ураджайнасьць коксагызу можа прычыніцца да шырокага разьвіцьця гумовае прамысловасьці. Дзякуючы-ж таму, што растуць буракі, можа разьвівацца цукровая прамысловасьць, а збожжа, бульба ды лён — гэта галоўныя асновы сьпіртовае і тэкстыльнае прамысловасьці. У Беларусі ёсьць багата дрэва, лесу, дзе вядзецца шмат розных зьвяроў, дзе растуць грыбы і ягады. Шмат таксама на Беларусі ёсьць азёраў і рэкаў, шмат багатых рыбамі. Рэкі зьяўляюцца таксама вельмі дагоднымі камунікацыйнымі шляхамі і вельмі добра спрыяюць электрыфікацыі і разьвіцьцю прамысловасьці. Беларусь багатая на торф, які зьяўляецца ня толькі добрым палівам, але з яго можна рабіць бэнзыну і розныя іншыя вартасныя хэмічныя прадукты. Знаходзяцца на Беларусі і залежы зялезнае руды і бурага вугальля. Натраплялі ужо у нашым краі на жаролы нафты і знаходзілі соль. Агулам, аднак, бяручы, нутраныя багацьці нашага краю яшчэ дакладна не дасьледжаныя, але і тое, што ёсьць, што мы бачым, зьяўляецца вялікім багацьцем. Дасюль, нажаль, Беларусь ня мела свайго добрага гаспадара. Чужынцы, — расейцы і палякі, якія у нас так доўга гаспадарылі, — стараліся толькі эксплёатаваць наш край і вывозілі нашае багацьце, ня дбаючы аб дабры і разьвіцьці нашага краю. Калі-ж будзе добрае кіраўніцтва, калі беларусы будуць магчы спакойна працаваць на сваіх гаспадарках, у прамысловасьці, гандлі, тады у Беларусі будзе дабрабыт і дастатак.

## III. ПРА СВАЮ МОВУ

**— Што такое народная мова?**

Народная мова гэта тая мова, якой гаворыць увесь народ. Кажны народ мае сваю родную мову і ёй усюды

гаворыць. Родная мова — вялікае народнае багацьце, якое народ павінен высака цаніць і шанаваць, бо як кажа Алесь Гарун:

Ад дзядоў і ад прадзедаў, браце,
Гэта скарб нам адзін захаваўся,
У сялянскай аграбленай хаце
Толькі ён незабраным застаўся.

**— Па чым лягчэй пазнаць, што мы беларусы?**

Найлягчэй гэта пазнаць па нашай мове. Мова злучае людзей у вадзін народ. І нашая беларуская мова злучае больш 20 міліёнаў беларусаў у вадзін народ.

**— Чаму мы гаворым беларускай мовай?**

— Бо яна наша родная, а кажны чалавек любіць сваю родную мову: так, прыкладам, немец любіць мову нямецкую, баўгарын — баўгарскую, а беларус — беларускую. І усё, што харошае, што добрае, усе мудрасьці сьвету — навуку, літаратуру — мы найлепей разумеем і любім, калі чуем у сваёй роднай мове, бо яна нам найбольш зразумелая і прыступная. У сваёй хаце мы, бывае, мала бачым сваю любасьць да нашай мовы, затое будучы на чужыне, як толькі пачуем нашую мову, дык вельмі цешымся. Бо чалавеку наймілей чуць і гаварыць сваёй роднай мовай.

**— Якая нашая мова?**

— Нашая мова адна з найчысьцейшых у славянскай сям'і моваў. Яна харошая, мілагучная, вельмі сьпеўная і гібкая, пра што вельмі надаецца да паэзіі і сьпеваў. Дзеля таго, што мова нашая захавала даўнейшы славянскі характар, яна — як маці у славянскай сям'і моваў. Да яе, як дзеці да маткі, падобныя усе славянскія мовы: маскоўская, сэрбская, чэская, украінская, польская і інш. Але пры гэтым яна зусім асобная, самабытная мова, як і кажная іншая. Ворагі нашага народу лгуць, што мова нашая не самабытная, калі кажуць: «гэта мешаніна маскоўскай і польскай моваў». Гэтак могуць **гаварыць толькі** нашыя зладумцы, або цёмныя людзі. Шмат вучоных людзей роз-

ных нацыянальнасьцяў навучаліся нашае мовы і пісалі аб ёй вучоныя кнігі, і усе яны у вадзін голас кажуць, што мова беларуская зусім самабытная,асобная мова, такая-ж самая асобная славянская мова, як польская ці маскоўская.

Даўней нашая мова была аднэй з самых культурных усходня-славянскіх моваў, ёю гаварылі князі нашыя, князі і вяльможы Вялікага Княства Беларускага (літоўскага), ды каралі польскія. Беларуская мова была мовай дыплёматычнай на усходзе Эўропы.

У беларускай мове у Вялікім Княстве Беларускім (літоўскім) пісаліся усе законы, вяліся усе урады і суды, адбываліся соймы і інш. Ад тых часоў захавалася багата дакумэнтаў, кніг, граматаў, і усе яны пісаныя чысьцюсенькай нашай беларускай мовай.

**— Ці маюць беларусы сваю літаратуру (пісьменства)?**

— Мы, беларусы, маем багатае сваё асобнае пісьменства. Беларускае пісьменства, літаратура, старэйшае за польскае і маскоўскае. З усіх славянскіх народаў адны толькі чэхі мелі раней за беларусаў надрукаваную біблію у сваёй мове.

| | | |
|---|---|---|
| Чэская біблія выдрукавана | | у 1488 г. |
| Беларуская | „ | у 1517 г. |
| Украінская | „ | у 1555 г. |
| Польская | „ | у 1561 г. |
| Літоўская | „ | у 1660 г. |
| Маскоўская | „ | у 1751 г. |

Беларусы даўнейшымі часамі мелі вельмі багатае сваё пісьменства. У XVI стагодзьдзі былі напісаныя і надрукаваныя у беларускай мове усе законы, духоўныя кнігі (праваслаўныя, каталіцкія, уніяцкія і рэфармацкія), гістарычныя, навуковыя і усякія іншыя. Пасьля наш народ заняпаў, яго задушылі, заціснулі, пры гэтым і пісьменнасьць заглушылі. Калі нашая бацькаўшчына папала пад Расею (Маскоўшчыну), дык нават зусім было забаро-

нена што-небудзь пісаць і друкаваць пабеларуску. Толькі у 1905 годзе, у часе расейскай рэвалюцыі, беларусы дамагліся права друкаваць кнігі у сваёй мове. За кароткі час ад 1905 г. беларускія пісьменьнікі напісалі багата харошых і цікавых кніжак, стварылі новую беларускую літаратуру. Цяпер беларусы маюць не малую і новую сваю літаратуру, і шмат газэтаў і часапісаў.

**— Ці беларуская мова адна на усёй Беларусі?**

— Беларуская мова адна і тая самая на усёй Беларусі, але як і усе старадаўныя і жывыя мовы, так і нашая мае свае адмены — дыялекты або гаворкі. У нас ёсьць колькі такіх дыялектаў або гаворак, прыкладам, віцебская, смаленская, палеская, цэнтральная (менская, слуцкая) і г. д.

**— Чаму іншыя беларусы стараюцца гаварыць чужой мовай замік сваёй?**

— Тыя беларусы, што стараюцца гаварыць чужой мовай, унікаючы свае, бываюць або шэльмы-душапрадаўцы, ды перакіньчыкі, або проста людзі цёмныя, якіх апуталі ворагі нашага народу. Першыя не гавораць пабеларуску дзеля свае асабістае карысьці, бо пайшлі у найміты да чужынцаў і працуюць зусім сьведама на шкоду беларускаму народу, каб яго выгубіць. Другія не гавораць праз цемнату сваю, бо паверылі нашым ворагам, што мова нашая «брыдкая», «простая» і за рознымі нашымі зладумцамі ідуць, як авечкі, на бойню. Абавязак кажнага сьведамага беларуса з першымі — ворагамі — змагацца, а другіх — цёмных — усьведамляць, выясьняючы ім праўду і навучаючы гісторыі нашай ды шырачы беларускае друкаванае слова.

**— Што сталася-б, каб мы забыліся свае роднае мовы?**

— Калі-б мы нашую родную мову закінулі, забыліся, а прынялі чужую, тады па усіх нас і сьлед загінуў-бы на зямлі.

Наш паэта Францішак Багушэвіч (Мацей Бурачок) у прадмове да «Беларускай Дудкі» кажа: «Шмат было та-

**кіх народаў, што страцілі найперш сваю мову, так як той чалавек перад скананьнем, катораму мову займае, пасьля і зусім замерлі. Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня умерлі! Пазнаюць людзі людзей па абліччу ці па адзежы, якую хто носіць. Вось-жа мова — гэта ёсьць абліччa і адзежа душы людзкой».**

Хто не шануе родную мову, той не шануе сябе самога, ні свой род, ні сваіх дзядоў, — бацькоў, якія гэтай мовай гаварылі. А хто саромеецца свае мовы, варты таго, каб і яго добрыя людзі саромеліся, як вырадка, каб ім пагарджалі, як недалюдкам, бо саромеючыся роднае мовы, ён крыўдзіць ня толькі дзядоў — бацькоў сваіх, але і увесь народ. Справядлівы, добры чалавек ніколі не саромеецца роднае мовы. Ён і сам гаворыць сваёй роднай мовай і глядзіць, каб і іншыя яе шанавалі.

«Дык шануй, беларус, сваю мову,
Гэта скарб нам на вечныя годы;
За пашану радзімаму слову,
Ушануюць нас брацьця-народы».

## IV. ПРА ГІСТОРЫЮ БЕЛАРУСІ

**— Што такое нашая гісторыя?**

— Нашая гісторыя — гэта мінуўшчына нашае роднае старонкі, усё тое, што калісь было на Беларусі.

**— Ці маюць беларусы сваю гісторыю?**

Так, беларусы маюць сваю багатую і цікавую гісторыю, мінуўшчыну. Гісторыяй Беларусі зьяўляецца гісторыя беларускіх плямёнаў: крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, вяцічаў, северанаў, дзераўлянаў. Беларускай гісторыяй зьяўляецца гісторыя беларускіх княстваў: Полацкага, Смаленскага, Турава-Пінскага і іншых, якія уваходзілі у склад гэтых вялікіх княстваў, як Віцебскае, Менскае і другія. Да гісторыі Беларусі належыць гісторыя Вялікага Княства Літоўскага, якое паўстала з беларускіх

і літоўскіх земляў у XIII стагодзьдзі і ахоплівала ня толькі усе беларускія, але таксама літоўскія і украінскія землі. Яно было магутным слаўным, беларускім гаспадарствам. Гісторыяй Беларусі зьяўляецца гісторыя — апісаньне барацьбы беларусаў з чужым расейскім і польскім наступам, з чужымі уплывамі за свабоднае сваё беларускае жыцьцё, за вызваленьне з пад чужое расейскае і польскае улады, пад якую часова быў лучыўшы наш народ.

**— Якая нашая мінуўшчына?**

— Нашая мінуўшчына — гэта бязупыннае змаганьне за лепшую долю і волю нашага народу.

У найдаўнейшых часох беларусы жылі самастойна і кіравалі усё сваё жыцьцё праз веча, народныя сходы. Старшыні нашага народу радзілі і пастанаўлялі аб усім. Пасьля беларусы пачалі выбіраць сабе князёў, якім даручалі кіраўніцтва гаспадарствам. Нашыя князі мелі сваю вялікакняскую сталіцу у Полацку, а удзельныя князі былі у Віцебску, Менску, Друцку, Смаленску, Тураве, Горадні, Чарнігаве і у шмат якіх іншых гарадох. Каля XIII стагодзьдзя Беларусь была падзеленая на шмат драбнейшых княстваў, а гэта таму, што пасьля сьмерці бацькі-князя сыны дзялілі «вотчыну», як цяпер, прыкладам, дзеляцца у нас на вёсках сяляне. Ад гэтага народ беларускі вельмі аслабеў быў і чуць не падпаў пад уладу чужынцаў, але пасьля беларускія землі былі ізноў аб'яднаныя і беларускае гаспадарства паўстала у форме Вялікага Княства Літоўскага (Беларускага).

Важнейшыя з нашых князёў былі: Рагвалод, які княжыў у Полацку у X стагодзьдзі, Ізяслаў, Брачыслаў, Усяслаў і інш. Найболей уславіўся Усяслаў: яму у чэсьць і свае і чужыя складалі песьні і пахвалы. Аб ім адна старасьвецкая песьня кажа: «Князь Усяслаў людзей судзіў, князём гарады парадкаваў».

З роду нашых князёў былі і князі Вялікага Княства Беларускага (Літоўскага), якое задзіночыла усе бела-

рускія, а таксама літоўскія і украінскія землі. З гэных князёў найбольш уславіліся Міндаўг, Гэдымін, Альгэрд, Вітаўт; Казімер ды іншыя. Альгэрд хадзіў вайною на Маскву і, здабыўшы яе, шчыт свой прыбіў да Маскоўскіх варотаў. Вітаўт уславіўся мудрасьцяй і сілай. Ён хацеў каранавацца на караля беларускага, але палякі адабралі ад паслоў залатую карону, якую прыслаў яму Папа рымскі на каранацыю. З роду беларускіх князёў паходзілі і каралі польскія (Ягелёны). І Уладыслаў Ягела, які быў каралём польскім, да канца жыцьця свайго ня умеў гаварыць папольску, а толькі пабеларуску, і ня дзіва, бо маці ягоная была княгіняй Віцебскай, ён гадаваўся у Віцебску і быў там князем.

У Вялікім Княстве Беларускім (Літоўскім), якое было беларускім гаспадарствам, беларуская мова была дзяржаўнай, гаспадарсьцьвенай. Пабеларуску адбываліся усе суды і соймы, пісаліся усе дакумэнты, пабеларуску гаварылі усе паны, вяльможы, князі, пабеларуску вучыліся у школах і маліліся у цэрквах і касьцёлах. Словам, усё жыцьцё, увесь лад, звычаі і абычаі былі беларускія.

Пасьля да беларускага гаспадарства далучылася і Польшча, як роўная з роўным і вольны з вольным. Злучэньне гэтае надыйшло дзеля таго, каб лягчэй было адбіваць супольнымі сіламі напады татараў, маскоўцаў і іншых ворагаў. Але, нажаль, гэтае злучэньне дабра беларусам ня прынесла. Палякі памогі у войнах не давалі, ды паступова адбіралі у беларусаў волю і роўнасьць, упрагаючы беларускі народ у паншчыну, а паноў і духавенства апалячваючы. За 200 год «вольнасьці» і «роўнасьці» з палякамі беларусы сталіся паняволеным народам без свае пісьменнасьці, без гаспадарсьцьвенага і грамадзкага права. У Польшчы ня было парадку, і дзеля таго у канцы XVIII стагодзьдзя яна і разам з ёй Беларусь была падзеленая між Расеяй, Аўстрыяй і Нямеччынай. Беларусы пасьля разьдзелу трапілі з агню ды у полымя — з польскіх — у «братнія» маскоўскія абоймы. Пасьля польскага панаваньня беларусы засталіся чуць жывыя, а

тут маскоўскія «браты» пачалі яшчэ больш іх душыць, каб сьцерці сьлед беларускага народу, каб абмаскаліць усіх беларусаў. Палякі цягнулі беларусаў-каталікоў да сябе, а маскалі зноў цягнулі да сябе беларусаў праваслаўных. Адныя і другія стараліся, каб беларусы забыліся, што яны беларусы, што яны асобны народ, што нашая зямля нашая, а не маскоўская, або польская, і што яны тут воўчым правам сталіся гаспадарамі. Але народ наш і у гэтай чужацкай напасьці выявіў нязвычайную жывучасьць і моц.

Ніякія польскія путы, ніякія маскоўскія нагайкі і астрогі ня здолелі адабраць ад нашага народу ягонага найдаражэйшага скарбу — роднае беларускае мовы. Усё, што маглі яны адабраць, адабралі: і школы, і цэрквы, і касьцёлы, і зямлю, і лясы, і рэкі і гарады, і багацьце, а мовы аднак у нашага народу ня здолелі адабраць! А калі наш народ захаваў мову, то ён жыве і будзе жыць. Праз мову наш народ здолее́ць адрадзіцца ды зноў зрабіцца вялікім, дужым і слаўным.

**— Як змагаўся беларускі народ за лепшую долю?**

— У XIX стагодзьдзі лепшыя сыны беларускага народу пазналіся на усіх «дабрадзействах» маскалёў і палякоў ды пачалі з імі змагацца. Перадусім пачалі паказвацца зноў беларускія кніжкі і адозвы, друкаваныя нелегальна у краі або за межамі, скіраваныя супроць маскальшчыны і польшчыны, якія аднача́сна пашыралі замілаваньне да усяго беларускага. Так, прыкладам, у 1862—1863 г. г. беларус Кастусь Каліноўскі, чалавек высока вучоны, выдаваў нелегальны беларускі часапіс «Мужыцкая Праўда». Пасьля ў 1884 годзе выходзіў другі нелегальны беларускі часапіс пад назовам «Гоман». Так пачынаўся беларускі адраджэнскі рух, мэтай якога было пазбавіцца чужацкай апекі і здабыць лепшую долю беларускаму народу. Кастусь Каліноўскі зарганізаваў нават проці Расеі узброенае паўстаньне, а другі беларускі рэва-

люцыянэр Ігнат Грынявіцкі, каб зрабіць зьмену у тагачаснай расейскай царскай імпэрыі і вызваліць з царскае няволі беларускі народ забіў у 1882 годзе расейскага цара Александра II, загінуўшы пры гэтым сам. Шмат было таксама розных сялянскіх паўстаньняў супроць Расеі і ейных валадароў. Кастуся Каліноўскага за ягоную дзейнасьць у вабароне беларускага народу маскалі павесілі у 1864 годзе у Вільні. Шмат беларусаў за працу для дабра беларускага народу было ссылана у Сібір і іншыя далёкія краіны. Наўсуперак гэтаму беларускі адраджэнскі рух разьвіваўся. Працаўнікоў на беларускай ніве штораз больш прыбывала. Урэшце дайшло да таго, што расейцы мусілі дазволіць легальна друкаваць беларускія кніжкі і газэты, пасьля рэвалюцыі 1905 году, у якой бралі шырокі удзел беларусы. Ад гэтага часу беларускі рух вельмі моцна узрос. Зьявілася шмат паэтаў, пісьменьнікаў, культурных працаўнікоў, выходзіла шмат беларускіх газэтаў, часапісаў і кніжак. Калі-ж пачалася у 1914 годзе сусьветная вайна і калі развальвалася старая Расея, беларусы пачалі арганізаваць новае адроджанае Беларускае Гаспадарства. Адбываліся зьезды, кангрэсы, нарады, арганізавалася беларускае войска, і 25 сакавіка 1918 году Беларусь была абвешчаная незалежным гаспадарствам. Не спадабалася гэта бальшавіком і палякам. Яны не далі магчымасьці паўстаць незалежнаму беларускаму гаспадарству, хоць у вабароне незалежнасьці Беларусі у 1920 годзе на Случчыне было зарганізаванае узброенае паўстаньне. Варожыя вялікшыя сілы, аднак, перамаглі адважных і слаўных случчакоў, а Беларусь бальшавікі і палякі падзялілі між собку. Такім парадкам далей адбывалася чужацкае панаваньне на Беларусі. Далей Беларусь была эксплёатаванай, а народ беларускі мусіў гараваць. З цяжкім лёсам народу не згаджаліся лепшыя сыны Беларусі. Яны далей вялі змаганьне з бальшавікамі і палякамі. Шмат каму давялося злажыць свае галовы на аўтар Бацькаўшчыны. Шмат каму давялося пакутаваць у вастрогах, канцэнтрацыйных лягерах і ссылках. Усё-ж такі

рух беларускі разьвіваўся і рос, надзея-ж на лепшую будучыню усьцяж павялічвалася і павялічваецца. Каб хутчэй яна зрэалізавалася, у вадраджэнскай працы, у вадраджэнскім нацыянальным беларускім руху павінны браць удзел усе беларусы.

## V. ПРА ВЕРУ БЕЛАРУСА

**— Якая вера у беларуса?**

— Беларусы усе хрысьціянскае веры, частка іх праваслаўныя, а частка іх каталікі. Даўней многа было сярод беларусаў вуніятаў, што прынялі царкоўную еднасьць, гэта значыць, яны маліліся паводля усходняга абраду, але галавой сваіх сьвятыняў уважалі Папу Рымскага, а не патрыярха Канстантынопальскага. Калі беларусы папалі пад уладу Расеі, маскоўскі урад скасаваў вунію. Той-жа маскоўскі урад адначасна падпарадкаваў сабе Праваслаўную Царкву на Беларусі і праз яе усімі сіламі стараўся русіфікаваць беларусаў. Каталіцкі Касьцёл па Беларусі падпаў ізноў пад польскія уплывы і праз яго палякі усімі сіламі стараліся беларусаў спалянізаваць. Такім чынам, чужынцы палянізавалі, русіфікавалі і дзялілі беларусаў на два варожыя рэлігійныя лягэры. Дзеля таго цяпер беларусы павінны старацца, каб Праваслаўная Царква і Каталіцкі Касьцёл на Беларусі не служылі чужым расейскім і польскім інтарэсам, а каб былі яны творчым дзейнікам для беларускага народу, гэта значыць, трэба, каб у сьвятынях навука, рэлігійныя сьпевы адбываліся пабеларуску, каб пашыралася там любоў да свайго беларускага краю, беларускае мовы, беларускіх звычаяў, беларускае культуры, каб у сьвятынях заахвочвалі беларусаў да маральнага жыцьця і плённае працы на карысьць беларускага народу. Пры тым трэба ведаць, што вера, ці як кажуць, рэлігія, не перашкаджае людзям захоўваць народную еднасьць. Так прыкладам сярод немцаў

ёсьць каталікі, лютаране, кальвіны і яны твораць адзін нямецкі народ. Беларусы праваслаўныя і каталікі таксама твораць адзін беларускі народ.

**— Ці вера можа азначаць народнасьць?**

— Не, вера што іншае, а народнасьць, нацыянальнасць што іншае, і таму вера ня можа азначаць народнасьці. Прыкладам, немцы ёсьць каталікі, лютаране і кальвіны, аднак яны становяць асобны народ, нямецкі. Каталіцкай веры італьянцы, французы, ёсьць ангельцы, немцы, беларусы, але гэта розныя, чужыя сабе народы.

Усе беларусы, ці яны праваслаўныя, ці каталікі, роўныя дзеці аднае маткі-Беларусі. Таму трэба нам жыць між собку ў згодзе і узаемна шанаваць адну і другую веру, бо мы усе радзіліся беларусамі, а праваслаўнымі, ці каталікамі — сталіся пасьля хрысьцін. Падобна і партыйнымі людзі становяцца куды пазьней, але усё гэта не перашкаджае нам быць добрымі беларусамі і разам стаяць за народную волю, за лепшую будучыню усяго нашага народу і краю.

## VI. ПРА БАЦЬКАЎШЧЫНУ

**— Што такое Бацькаўшчына?**

— Бацькаўшчына — гэта той край, дзе мы нарадзіліся і вырасьлі, дзе жывуць нашыя бацькі і жылі дзяды, дзе жыве увесь беларускі народ.

**— Дзе маюць Беларусы сваю Бацькаўшчыну?**

— Нашая Бацькаўшчына — гэта беларуская зямля, дзе беларусы жывуць спакон веку, абрабляюць гэтую зямлю сваймі рукамі, паліваюць яе сваім потам і крывёй, баронячы яе ад ворагаў. І ў нас самых, у нашым характары адлюстравалася нашая Бацькаўшчына, а у сэрцы мы носім ясную, ніколі нягаснуючу памяць аб ёй. Бацькаўшчына — гэта нашыя бацькі і нашыя дзеці, гэта наш край. У кажным з нас захавана мінуўшчына і будучыня роднае нашай зямлі. Таму мы з сваймі сем'ямі, маемась-

цый, з усімі нашымі таварыствамі, з нашымі сёламі і гарадамі належым да вялікае нашае Бацькаўшчыны — Беларусі.

**— Адкуль узяліся на гэтай зямлі Беларусы?**

— Гэтую зямлю Беларускую засяляе наш народ ад найдаўнейшых часоў. Як памяць людзкая сягае, заўсёды на гэтай зямлі жылі Беларусы. Яны аселі на гэтай зямлі у той час, як яна была неаброленая і дзікая і сваймі рукамі, сваёю няўтомнай працаю перарабілі яе на ураджайную і багатую.

## VII. ПРА НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ АДЗНАКІ БЕЛАРУСА

**— Ці мае Беларускі народ свае нацыянальныя беларускія адзнакі (эмблемы).**

— Так. Беларускі народ мае свае адзнакі. Мае свой гэрб, званы «Пагоняй», і свой беларускі бела-чырвона-белы нацыянальны сьцяг.

**— Што такое гэрб?**

— Гэрбам называецца знак, які сымбалізуець які-небудзь народ, край, горад, арганізацыю або род. Так, прыкладам, дзяржаўны гэрб былой Расейскай імпэрыі быў двугаловы арол. Бальшавікі пасьля кастрычніцкай рэвалюцыі скасавалі гэны гэрб і увялі свой: молат і серп. Гэрб Нямецкай дзяржавы — аднагаловы чорны арол, да якога нацыянал-сацыялістыя увялі яшчэ гачыкаваты крыж, званы свастыкай.

Гэтак сама гэрбы мелі і цяпер яшчэ маюць розныя роды, заслужаныя перад дзяржавай. Атрымвалі яны іх ад сваіх манархаў і перахоўвалі, як радавыя гэрбы з пакаленьня у пакаленьне.

Пачатку гэрбаў трэба дашуквацца у далёкай мінуўшчыне, калі пісьменнасьці яшчэ або ня было зусім, або была распаўсюджаная так мала, што нават цары ці каралі і вялікія начальнікі былі людзьмі няпісьменнымі, так што для пацьверджаньня свайго загаду сваім падуладным яны насылалі ім свой знак — гэрб.

Беларускім гэрбам зьяўляецца «Пагоня». «Пагоня» прадстаўляе малюнак узброенага коньніка на белым кані. Коньнік намаляваны на чырвоным шчыце, увесь у панцыры, з шаломам на галаве, у правай выцягнутай угару руцэ трымае шаблю так, як-бы хацеў ён каго-небудзь сячы, у левай руцэ трымае шчыт з шасьцёхканцовым крыжам, конь выцягнуўшыся у скоку. Адгэтуль, пэўна, і назоў «Пагоня», як-бы гэты рыцар каго-небудзь даганяў.

Паўстаньне «Пагоні», як беларускага гэрбу, датуецца з вельмі даўных часоў гісторыі нашага народу.



Беларускі гэрб «Пагоня»

Нашыя прашчуры — славяне, якія належалі да плямя крывічоў, да часу прыйма хрысьціянскае веры абагаўлялі сілы прыроды. У іх быў бог сонца, які адначасна быў богам ураджаю, і называўся ён Ярыла. Бог грому і дажджу называўся Пяруном і шмат іншых было багоў з рознымі назовамі.

У найбольшай пашане быў бог сонца Ярыла, бо сонца зьяўляецца найбольшым дарам прыроды, таму што дае сьвятло і цяпло, а праз гэта і усё жыцьцё на зямлі. У чэсьць бога Ярылы былі сьвяты і урачыстасьці, народ складаў яму песьні і ахвяры. Бог Ярыла сымбалізаваўся белым канём, на якім сядзеў юнак. Гэты знак белага каня з маладым ездаком сымбалізаваў тады рэлігію, як, прыкладам, цяпер крыж сымбалізуе рэлігію хрысьціянскую. Нашыя прашчуры і ужывалі гэты знак для азначэньня прыналежнасьці да плямя і рэлігіі крывічоў.

У пазьнейшыя часы, калі нашыя прадзеды увайшлі у сувязь з заходня-эўрапэйскімі рыцарамі, якія былі коньнікамі, закутымі у панцыр з шчытом у руцэ і з шаломам на галаве, яны пачалі пераймаць ад гэтых рыцараў іхнае узбраеньне, бо на тагочасную ваенную тэхніку яно было шмат лепшае. Яны, узброіўшыся самі у сталёвыя панцыры і шаломы, узброілі таксама і свой пляменны знак — юнака на белым кані, апранаючы яго у панцыр і шалом. У правую-ж руку улажылі меч, а у левую — шчыт. Яшчэ пазьней, прыняўшы хрысьціянства, крывічы пад уплывам духавенства, зрабілі яшчэ адну зьмену — на шчыце дадалі шасьцёхканцовы крыж. Гэтая зьмена ужо была апошняю. У такой форме сымбаль бога сонца, званы «Пагоняй», застаўся беларускім дзяржаўным гэрбам.

Гэтым гэрбам адзначаліся даўней усе беларускія землі, падзеленыя на ваяводзтвы. Гэтым гэрбам адзначалася Вялікае Княства Літоўскае, гуртуючы каля сябе не толькі беларусаў, але украінцаў і ліцьвінаў. І таму і па сёньняшні дзень «Пагоню» ужываюць за свой гэрб і Ліцьвіны.

**— Як выглядае беларускі нацыянальны сьцяг?**

— Беларускі нацыянальны бела-чырвона-белы сьцяг выглядае у форме простакутнага даўгога палотнішча, зложанага з трох палосак удаўжкі: белай, чырвонай і зноў белай.

**— Якая гісторыя беларускага нацыянальнага сьцягу?**

— Вось-жа беларусы даўней зваліся крывічамі, ад слова «кроў». Крывіч — значыцца блізкі з крыві, сваяк. Крывічы жылі у цеснай сувязі між собку, тварылі як-бы адну вялікую радзіму-сям'ю. Відавочным знакам гэтай кроўнай сувязі быў чырвоны колер крыві. Дзеля гэтага аж дагэтуль чырвоны колер зьяўляецца улюблёным і пераважным колерам ува усім беларускім народным мастацтве. Няма, здаецца, аніводнай беларускай мастацкай рэчы народнага паходжаньня, дзе-б ня было чырвонага колеру. Вышываныя кашулі, паясы, ручнікі, сьвіткі — усюды пануе злучэньне белага і чырвонага колераў, часамі уплятаецца яшчэ колер зялёны, чорны.

Асноўным-жа колерам беларускім зьяўляецца колер белы. Яшчэ у пачатках гісторыі нашыя прашчуры навучыліся сеяць і вырабляць лён, ткаць з яго белае палатно, з якога шылі сабе адзежу. Таксама і сукно, тканае з воўны белых авечак, беларусы насілі у прыродным, нехварбаваным выглядзе. І суконныя і лянныя белыя вопраткі беларусы заўсёды прыбіралі чырвонымі узорамі або чырвонымі паясамі. Гэткія вопраткі можна і цяпераka бачыць у некаторых мясьцінах Беларусі. Белыя нагавіцы, белая кашуля, белая сьвітка, падперазаная чырвоным паясом — вось сыльвэтка беларуса. Зразумела, што і нацыянальны сьцяг беларусаў бел-чырвона-белы. Ён прыгадвае нам нашую белую сьвітку з чырвоным паясом.

Беларускі нацыянальны сьцяг і беларускі гэрб «Пагоня» — гэта вялікі нацыянальны скарб для усіх Беларусаў.

**— Ці можна і ці трэба насіць свае нацыянальныя беларускія адзнакі?**

Пры бальшавіцкай і польскай уладзе насіць або вывешваць беларускія нацыянальныя адзнакі было забаронена. Цяпер аднак Генэральны Камісар Беларусі распараджэньнем ад 27 ліпеня 1942 году дазволіў пры розных урачыстасьцях, ці для пазнаньня беларускае нацыянальнасьці побач з нямецкімі адзнакамі вывешваць на дамох і насіць беларускія нацыянальныя адзнакі і эмблемы, якімі зьяўляюцца «Пагоня» і бел-чырвона-белы сьцяг. Адзнакі гэтыя знаходзяцца цяпер пад гаспадарсьцьвеннай апекай і іх ніхто ня мае права зьневажаць. Кажны беларус павінен свой гэрб «Пагоню», свой бел-чырвона-белы сьцяг шанаваць. Гэтыя адзнакі павінны красавацца у нашых хатах, школах, урадах, фабрыках і іншых установах. Адзнакі гэтыя мы павінны насіць і ганарыцца імі.

## VIII. ПРА ПАТРЫЯТЫЧНЫЯ ПАВІННАСЬЦІ

**— Што такое патрыятызм?**

Патрыятызм — гэта шчырая любасьць да свайго роднага народу і да свайго роднага краю. А патрыёт — гэта той чалавек, які стараецца дапамагчы свайму народу і працуе у гэтым кірунку як мага.

**— Чаго мы хочам для свае Бацькаўшчыны?**

— Кажны з нас любіць Беларусь і хацеў-бы бачыць яе шчасьлівай. А гэта стаецца тады, як усе беларусы будуць сьведамымі сынамі свайго народу і калі самі беларусы будуць добра гаспадарыць на сваёй зямлі. Дзеля гэтаганя толькі самым трэба любіць Бацькаўшчыну і працаваць для ейнага дабра, але трэба яшчэ навучаць і прыхіляць да гэтага усіх беларусаў, з якімі спатыкаешся, будзіць у іх гэтыя высокія добрыя пачуцьці.

**— Якая патрыятычная павіннасьць кажнага беларуса?**

— Сьвятая павіннасьць кажнага беларуса заўсёды і усюды прызнавацца да свайго народу, дбаць аб гонар свае нацыі ды пільна выконваць усё, што прычыняецца да узмацаваньня і адукацыі нашага народу.

Дбайма-ж аб родны край, пільнуймася-ж сваіх павіннасьцяў перад ім. Стараймася, каб імя Беларус заўсёды, ува усіх народаў сустракалася з пашанай.

**— Якім спосабам беларус можа дбаць аб умацаваньне і адукацыю свайго народу?**

— Кажны чалавек павінен свой народ любіць, ім ганарыцца, для ягонага дабра і славы жыць і працаваць; як мага дбаць аб уздым славы і гонару яго. Кажны патрыёт-беларус болей, чымся хто іншы, няхай стараецца выконваць свае патрыятычныя павіннасьці, бо у нас болей, чымся у іншых, працы, бо мы асталіся ад іншых. Беларускі патрыёт можа дбаць аб узмацаваньне і красаваньне свайго народу праз сям'ю і школу і праз грамадзкую працу.

## IX. ПРА БЕЛАРУСКУЮ СЯМ'Ю

**— Якія павіннасьці беларуса у сям'і?**

— Першая павіннасьць, каб у сям'і беларускай гаварылі і маліліся пабеларуску і каб захоўваліся звычаі і абычаі беларускія; каб па будове ды па рэчах і па усім, што ёсьць у гасподзе, выяўляўся беларускі характар: усялякія узоры, малюнкі, вышыўкі павінны быць у беларускім гусьце. У кажнай беларускай сям'і павінны быць кніжкі беларускія і часопісы, бо благі той беларус, што чытае у сваёй сям'і не сваю беларускую, а чужую, у чужой мове газэту.

Як-бы далейшым працягам сям'і для моладзі зьяўляецца школа. Беларуская сям'я павінна старацца, каб дзеці яе вучыліся у беларускай школе. Чужая школа дагэтуль навучала беларускіх дзяцей любіць чужое і зьневажаць сваё роднае і свой народ, сваю мову і звычаі. Чужая школа гадавала з нашых дзяцей людзей чужых для нашага народу. Дзеля гэтага, кажны патрыёт павінен дакладаць усіх сіл, каб усюды, дзе жывуць беларусы, былі беларускія пачаткавыя, сярэднія і вышэйшыя школы. Сям'я — гэта аснова, фундамант нацыі, а школа — будучыня яе. Беларускі патрыёт павінен дбаць яшчэ і аб тое,

каб у беларускіх сем'ях сьпяваліся беларускія песьні і каб у школах навучалі сьпяваць патрыятычныя беларускія песьні.

Беларус павінен жаніцца толькі з беларускай, а беларуска павінна выходзіць замуж толькі за беларуса. Гэтак павінны мы рабіць ня толькі дзеля таго, каб захаваць чысьціню свае расы, але і дзеля таго, каб у нашых сем'ях панавала згода. Тымчасам у сямейным жыцьці няма нічога горшага, як мешанае рознанацыянальнае жанімства. Гэткая мяшаная сям'я пераважна заўсёды сварыцца. Часта бывае так, што жонка беларуса — полька, расейка, ці літоўка — паўстрымвае свайго мужа у ягоных беларускіх нацыянальных імкненьнях, у беларускай нацыянальнай працы і змаганьні, не карысных для жончынае нацыі. Мала таго, пераважна ў такіх сем'ях як маці, так і бацька, кажны хоча узгадоўваць сваіх дзяцей пасвойму. Дзеці такім парадкам знаходзяцца на раздарожжы, а гэтага ня можа быць у нас.

Беларуская сям'я павінна узгадоўваць беларускіх дзяцей у беларускім нацыянальным духу, прышчапляючы ім любоў і пашану да свайго краю, да свайго народу, да сваіх народных песьняў, казак, да свае беларускае мовы. У нашых беларускіх сем'ях ня можа быць раздваеньня і хістаньня, а павінна панаваць гармонія і сужыцьцё. Пры тым бацькі павінны старацца сваіх дзяцей адзяваць у беларускія народныя вопраткі: вышываныя кашулі, блюзачкі, спадніцы, сукенкі. Ды наагул усім беларусам ня трэба цурацца сваіх нацыянальных беларускіх убораў, вопраткі, асабліва у сьвяты, трэба іх дэманстрацыйна насіць. Трэба насіць вышываныя ільняныя кашулі (сарочкі), беларускія нацыянальныя гальштукі (краваткі), робленыя з беларускіх паясоў, касьцюмы і паліто з саматканаў і г. д. Асабліва-ж стройна выглядаюць жаноцкія сукенкі з кужалю з беларускімі народнымі вышыванкамі. Пагоня за таньдэтнай крамнінай павінна скончыцца, бо нашыя саматканыя вырабы далёка лепшыя і прыгажэйшыя за крамніну. Чужынцы нашымі тканінамі, паясамі, нашымі уборамі

даўно ужо захапляюцца, ахвоча іх купляюць, носяць і хваляцца імі, тымчасам усё гэта ня мае свае належнае цаны і пашаны у нас беларусаў. Вось-жа час найвышэйшы, каб мы свае нацыянальныя багацьці таксама належна шанавалі і цанілі.

**— Якім павінен быць беларус у грамадзкім жыцьці?**

— Беларускае грамадзкае жыцьцё твораць грамады, суполкі, таварыствы, установы, а таксама наш тэатр, канцэрты, забавы, часапісы, прамысловасьць, гандаль — усё гэта месцы публічнага грамадзкага жыцьця і лучнасьці.

Дык і трэба, каб усюды у грамадзкім жыцьці беларус выступаў з гонарам і развагай, а галоўнае справядліва і слушна. На сходах і нарадах — гаспадарскіх, купецкіх, духоўных, палітычных ці іншых — сьведамы беларус павінен меркаваць аб усім, выходзячы з патрэбаў і карысьці беларускага народу.

Выбіраючы людзей у вурады і прадстаўніцтвы, трэба пілнавацца, каб ня выбіраць людзей чужых, ворагаў нашага народу і нашае справы. Наадварот, трэба заўсёды старацца ува усякія урады выбіраць добрых, сумленных і сьведамых беларусаў.

**— Як рабіць, каб нашае становішча было ясным?**

— Каб нашае становішча было ясным, мы павінны быць наскрозь беларусамі. Ня толькі усюды з усімі гаварыцы пабеларуску, але і вымагаць, каб надпісы у крамах, дзе мы купляем тавары, былі пабеларуску, каб вурыць пабеларуску, але і вымагаць, каб надпісы у кра-беларушчына. Мусім старацца, каб наша Бацькаўшчына наскрозь мела наш родны беларускі выгляд.

**— Як захоўвацца у вустановах і урадах?**

— У вурадах, воласьці, судзе і усюды трэба нам гаварыць толькі пабеларуску і бараніць свайго на гэта нацыянальнага права.

## X. БЕЛАРУС НА ЧУЖЫНЕ

**— Ці мае беларус аглядаць чужыну?**

— Сьвет — гэта найлепшая школа жыцьця. Хто шмат бачыў, той шмат ведае. Кажны, хто толькі можа, няхай аглядае ня толькі свой родны край, але і замежжа.

**— Як павінен трымацца беларус на чужыне?**

— Беларус першым чынам павінен памятаваць, што чужынцы, углядаючыся на яго, будуць меркаваць аб усім народзе, таму на чужыне, трэба годна і паважна прадстаўляць сябе і сваю нацыю.

**— Ці трэба вучыцца чужой мове?**

— Трэба. Чым болей чалавек ведае, тым яму лепей, бо ён робіцца больш адукаваным. А толькі добра адукаваны чалавек можа шмат зрабіць для свае Бацькаўшчыны. Хто ведае чужую мову, той можа чытаць чужыя кніжкі і часапісы, можа даведацца з іх шмат для нас карыснага, што трэ' было-б, каб і у нас было. Гаворачы з чужымі людзьмі, раскажа такі чалавек і аб нашым народзе і аб нашым жыцьці. Бо часам на чужыне ведаюць аб нас толькі тое, што напішуць аб нас нашыя ворагі. Але перш за усё, і на чужыне будучы, кажны беларус павінен добра знаць сваю мову, сваю геаграфію, гісторыю, мастацтва, літаратуру, словам — усё жыцьцё, каб будучы на чужыне, не рабіў сам сораму нам, але годна заступаў, і абараняў наш народ, дзеля яго дабра працаваў, ды каб добра аб ім інфармаваў чужынцаў.

## XI. НАШАЯ ГОРДАСЦЬ

Мы гордыя тым, што мы беларусы, крывічы, бо мы — народ здольны. З нашага народу выйшла багата славутых людзей, за якіх ніколі нявыплачаны доўг маюць перад намі і палякі (Касьцюшка, Міцкевіч, Сыракомля, Крашэўскі, Манюшка і шмат інш.), і маскалі (Дастаеўскі, Глінка і шмат інш.), і іншыя нашыя суседзі. Пра нашую здольнасьць сьветчаць таксама нашыя звычаі і абычаі, на-

шыя песьні і казкі, нашае будаўніцтва, усякія культурныя памяткі і інш.

Мы гордыя з свае мовы, бо нашая мова мэлёдыйная, багатая і вельмі надаецца да песьні і паэзіі. А да таго-ж яна — адна з найчысьцейшых славянскіх моваў.

Мы гордыя з свае песьні. Беларусы маюць вельмі багата песьняў. Нота нашых песьняў вельмі багатая і адлюстроўвае у сабе душу нашага народу. Нашая народная песьня займаець адно з выдатнейшых месцаў між песьнямі усіх народаў сьвету. Ёю цікавяцца вучоныя людзі чужых народаў. Беларускія народныя песьні выкарыстоўвалі і уплятали у свае творы гэткія славутыя кампазытары-музыкі, як Рымскі-Корсакаў, Глінка, Манюшка, Мусаргскі, Карловіч, Шыманскі, Грэчанінаў і інш.

Мы гордыя з свайго народу. Усякі іншы народ, жывучы ў такіх цяжкіх абставінах, якія выпалі на нашу долю, загінуў-бы, а наш народ выказаў нязвычайную жыцьцёвую сілу. Ён пeратрываў усякія злыбяды, ліхалецьці і напасьці ды перахаваў у сабе сваю родную мову і любасьць да свае Бацькаўшчыны Беларусі. Наш народ любіць праўду і красу — ён спакойны і разважны, а пры гэтым станоўкі і цьвёрды.

Мы гордыя з свае гісторыі, бо нашая гісторыя — гэта нясупыннае змаганьне за волю, змаганьне за захаваньне свае нацыянальнае душы. Пры тым, мы ніколі ня галіліся на чужое. Нашая гісторыя — гэта Гольгота нашага народу, якая чыніць яму чэсьць і славу.

Мы гордыя за сваю родную зямлю. Нашая Бацькаўшчына — прыгожы край. Багата у ёй красы: харошая у нас вясна і лета, восень і зіма. Нашыя пушчы, лясы і абшары апавітыя паэзіяй, з якое праглядае нашая мінуўшчына.

Адным словам, мы гордыя, што мы беларусы.

І мы гордыя сваймі змагарамі-беларусамі, сваймі нацыянальнымі гэроямі, якія змагаліся за лепшую долю беларускага народу, якія на аўтар Бацькаўшчыне злажылі сваё жыцьцё, як Кастусь Каліноўскі, Ігнат Грыня-

віцкі, як Слуцкія Паўстанцы, як Усевалод Ігнатоўскі, Язэп Лёсік, і багата-багата іншых. Мы гордыя іхнай працай, мы усе будзем працаваць і змагацца для дабра свайго краю. Мы будзем адначасна так, як і яны, верыць у тое, што народ наш беларускі будзе шчасьлівым, радасным, што абмінець яго доля ліхая і будзе час, калі зажыве ён у дастатку, у дабрабыце, спакойна, сваім беларускім жыцьцём.

## XII. СЫМБАЛЬ ВЕРЫ БЕЛАРУСА—НАЦЫЯНАЛІСТАГА

У імя Краю, Народу і Духу Крывічанскага, за ягоную славу, шчасьце і свабоду. Станься.

*

Веру у Бацькаўшчыну нашую Крывію-Беларусь і у Народ наш, сына яе адзінага, што на сьвет прыйшоў свабодным, радзіўся з Волі, нікім не паярэмленай. Замучаны быў маскалямі і палякамі, загнаны у прыгонную няволю, памёр, як дзяржаўны народ, і быў падзелены на часткі. Але зноў уваскрасае з мертвых, узыйдзе на пасад свабоды і будзе, магутны, паводля заслугаў судзіць сваіх ворагаў і крыўдзіцеляў. Веру у творчасьць Духа пароднага, у лучнасьць нашых сілаў грамадзкіх, у задзіночаньне усіх Беларускіх земляў у вадну свабодную дзяржаву і у шчаснасьць векавечную. Станься.

*

Вітай, Беларуская зямелька, потам і крывёю нашаю палітая, праўда з Табою. Багаслаўлена Ты паміж усімі краінамі сьвету і багаслаўлены плод лона Твайго, Крывіч. Сьвятая зямелька, Маці наша! Табе у вахвяру складаем мы усе сілы свае цяпер і у час сьмерці нашай.

*

Слава Беларускаму народу ува усіх ягоных гісторычных іменьнях, — Крывіі. Літвы, Беларусі, — як была спрадвеку, так цяпер і на векі вечныя. Станься.

## XIII. ДЗЕСЯЦЬ ЗАГАДАЎ БЕЛАРУСА-НАЦЫЯНАЛІСТАГА

1. Любі народ і край свой родны Беларускі усім сэрцам, усёй душой, усімі мысьлямі, думамі і подумкамі сваймі.

2. Шануй мову сваю родную крывічанскую, ужывай яе усюды і заўсёды, не папускай на зьдзек нікому.

3. Памятай выслаўляць дзень сьвяты Сакавіковы.

4. Паважай тых, што змагаліся і змагаюцца за нашую лепшую будучыню.

5. Не забівай на славе тых, што працуюць для Бацькаўшчыны.

6. Ня злучай сябе зьвязкамі жаніцтва з чужынцамі.

7. Ня вер ні маскалём, ні паляком, ні жыдом.

8. Ня траць веры у народную справу крывічанскую.

9. Не перасаджай ні маскальскае, ні польскае культуры на грунт свой народны.

10. Ні мовы чужой, ні паэзіі, ні грамадзкіх формаў, ні звычаяў, ні абычаяў, нічога, што ня вырасла з народнага духу.

## XIV. МАЛІТВА БЕЛАРУСА—НАЦЫЯНАЛІСТАГА*)

Магутны Божа! Ўладар сусьветаў,
Вялізных сонцаў і сэрц малых,
Над Беларусяй ціхой і ветлай
Рассып праменьне Свае хвалы.

Дай спор у працы штодзённай, шэрай,
На лусту хлеба, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
У нашу праўду, у прышласьць — дай!

---

*) Верш Натальлі Арсеньневай.

Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,
Учынкам нашым — пашлі ўмалот.
Зрабі магутнай, зрабі шчасьлівай
Краіну нашу, і наш народ!

## XV. ПРЫСЯГА БЕЛАРУСА*)

Над гонар і славу,
Над чары каханьня
Народную справу
І перакананьне,
Што розум дыктуе,
Заўсёды я волю,
Ня здраджу ніколі .

Хай хмара навісьне
Над соннай зямлёю,
Хай гора прыцісьне
Зялезнай рукою, —
Я роднае мовы,
Ня кіну ў нядолі,
Ня здраджу ніколі.

Бушуе хай бура,
Віхор хай злуецца.
Хай вецер панура
Завые на рэчцы, —
Я роднага краю,
Што рвецца да волі,
Ня здраджу ніколі.

Хай гром з пярунамі
Грыміць і страляе,
Маланка агнямі
Хай бліскае, зьзяе, —
Свайго я народу —
Бяз хлеба і волі —
Ня здраджу ніколі.

Хай срэбра, дукаты
Мне сыплюць пад ногі
І скажуць: «Багаты
Будзь! Кінь род убогі!»
Я плюну з пагардай,
Народу-ж і волі
Ня здраджу ніколі.

Да самага скону
Усякім прымусам
І сіле прыгону
Скажу: «Беларусам
Па век застануся».
Свае ўласнай волі
Ня здраджу ніколі!

---

*) «Ніколі» — верш А. Зязюлі.

## XVI. БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІМН

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
па вольны родны свой прастор, —
хай воля вечна будзе з намі,
а гвалту мы дамо адпор!

Няхай жыве магутны, сьмелы
наш беларускі родны дух,
штандар наш бел-чырвона-белы,
пакрый сабой народны рух.

На бой, за шчасьце і за волю
народу слаўнага свайго,
браты, цярпелі мы даволі, —
на бой усе да аднаго.

Імя і сілу беларуса
няхай пачуе й бачыць той,
хто сьмее нам нясьці прымусы
і першы выкліча на бой.

Браты, да шчасьця мы падходзім,
хай гром грыміць яшчэ мацней, —
ў крывавых муках мы народзім
жыцьцё Бацькоўшчыны сваей.

## XVII. ПЕСЬНЯ КАЛІНОЎЦАЎ*)

Палыном і быльлём парасьлі нашы нівы,
Як ня б'ёмся, ня гнёмся над імі у крук.
Плён зьбіраюць паны з маскалямі, ня дзіва,
Што канае народ твой і ты, Беларусь!

Але годзе! Мы ўстанем! Ціхім раньнем, на Ўсходзе
Ссыплем, згорнем у шапкі залатую зару
І ў сталёвым ад кос і ад песьняў паходзе
Возьмем волю сабе і табе, Беларусь!

Каліноўскі нас кліча і агніста й зацята
На змаганьне за сьвята для мазолістых рук,
За зямлю для аратых, і за сонца ў хатах,
За ўвесь твой народ, за цябе, Беларусь!

Дык ударам, як гром, дык лінём навальніцай,
Дык праб'ёмся-ж крыніцай з-пад зямлі угару,
Каб мядзянай пшаніцай мог зіхцець-каласіцца
Наш загон і бязьмежжы твае, Беларусь!

Гэй сьмялей, гэй далей! Не лякаймася сьмерці!
Нашы целы і славу сыны падбяруць.
Хоць і зложым на пожнях гарачыя сэрцы,
Але ты будзеш жыць і расьці, Беларусь!

---

*) Верш Натальлі Арсеньневай.